# Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі



## СВЕТ

### АФІЦЫЯЛЬНЫ ВІЗІТ У ГДР

У мінулым тыдні ў Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы прабывала польская дэлегацыя на чале з I сакратаром ЦК ПАРП Уладзіславам Гамулкам. У склад дэлегацыі ўваходзілі: член Палітбюро ЦК, старшыня Савета Міністраў Юзэф Цыранкевіч, сакратар ЦК Балеслаў Яшчук, сакратар ЦК Зэнан Клішка і член ЦК, старшыня Камісіі планавання пры Савеце Міністраў Юзэф Кулеша.

Дэлегацыі Польшчы і ГДР зрабілі шырокі абмен поглядамі і доследамі на тэму праблемаў развіцця сацыялістычнай сістэмы ў Польшчы і ГДР, усебаковага развіцця братэрскіх суадносін між абедзвюма дзяржавамі ў галіне ўмацавання адзінства сацыялістычных дзяржаў, а таксама праблемаў супольнай барацьбы за мір і бяспеку ў Еўропе і ў свеце.

### НОВАЯ ІНІЦЫЯТЫВА

Сесія камітэта па раззбраенню працягвае сваю работу ў Жэневе. На парадку дня стаіць шмат цікавых ініцыятыў і праектаў паразуменняў, унесеных на працягу цяперашняй сесіі. Побач савецкага праекта канвенцыі аб дэмілітарызацыі дна мароў і акіянаў прадстаўнік Швецыі злажыў праект паразумення аб забароне падзямельных проб з тэрмаядзернай зброяй.

Прадстаўнікі дэлегацыі 5 сацыялістычных краін, членаў камітэта — СССР, Польшча, Румынія, Чэхаславакія, Балгарыя — выступілі з заклікам да ўсіх еўрапейскіх краін, у якім гавораць аб неабходнасці склікання еўрапейскай канферэнцыі бяспекі.

Паклікаючыся на будапешцкую дэкларацыю дзяржаў удзельніц Варшаўскага дагавору, прадстаўнікі нашых краін у Жэневе запрапанавалі скліканне ў хуткім часе сустрэчы прадстаўнікоў урадаў еўрапейскіх краін, мэтай якой была б падрыхтоўка гэтай канферэнцыі.

### РАЗМОВА СССР — ЗША

У Маскве падалі афіцыяльна да ведама, што 14 красавіка г.г. урады СССР і ЗША пачалі ў Вене размовы звязаныя з мірным выкарыстоўваннем тэрмаядзерных выбухаў.

Савецкую дэлегацыю ўзначальвае член Акадэміі навук Фёдараў.

### ПЛАН ХУСЕЙНА

Прабываючы з афіцыяльным візітам у Вашынгтоне кароль Іарданіі Хусейн прадставіў узгодненый з прэзідэнтам Насерам план урэгулявання блізкаўсходняй праблемы. План, які складаецца з 6 пунктаў, між іншым запэўняе права свабоднага плавання на Суэцкім канале і па заліве Акаба. Большасць, з вышэй указанай колькасці пунктаў, вынікае непасрэдна з пастановы Савета Бяспекі ад лістапада 1967 г.

Паводле найважнейшых інфармацый ізраільскія правячыя кругі ўжо аднесліся адмоўна да плана караля Хусейна. Сцвярджаюць яны, што гэты план мае толькі «прапагандовае» значэнне, і сцвярджаюць, што не чакаюць развязкі ад заяў складаных у Вашынгтоне, патрабуючы «непасрэдных перагавораў.»

АК



## БССР

### ВЫЗВАЛЕННЯ

У сувязі з 25-годдзем вызвалення Беларусі ад нямецка-фашыстоўскіх захопнікаў, якое спаўняецца ў ліпені г.г., Цэнтральны Камітэт КП Беларусі прыняў пастанову. У ёй адзначаецца, што бліскуча ажыццёўленая ў 1944 годзе Савецкай Арміяй пры актыўнай падтрымцы партызан Беларуская наступальная аперацыя ўвайшла яркай старонкай у гераічны летапіс барацьбы народа за свабоду і незалежнасць.

Дваццаціпяцігоддзе вызвалення Беларускай ССР будзе адзначацца ў абстаноўцы магутнага ўсенароднага сацыялістычнага спаборніцтва.

У вышэйшых навучальных установах адбудуцца навуковыя канферэнцыі, прысвечаныя 25-й гадавіне вызвалення Беларусі.

У дні святкавання гэтай даты ў гарадах і вёсках рэспублікі запланавана правесці ўрачыстыя сходы, мітынгі, забавы. Прадугледжана арганізаваць ля помнікаў і месц пахавання загінуўшых воінаў і партызан масавыя сустрэчы і маніфестацыі моладзі. Пастановай ЦК КПБ прадугледжана збудаванне там, дзе гэта яшчэ не зроблена, помнікаў і абеліскаў, устанаўленне мемарыяльных дошак — завяршэнне да канца чэрвеня работ па будаўніцтву на 21-ым кіламетры шашы Мінск—Масква манумента ў гонар пераможнаснага правядзення ў 1944 г. Беларускай аперацыі.

ЦК КП Беларусі зацвердзіў арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенню святкавання 25-ай гадавіны вызвалення БССР. Камітэт узначалілі: Ф. Сурганаў (старшыня), С. Пілатовіч (намеснік старшыні), Р. Кісялёў (намеснік старшыні).

### УСТАНОЎЧЫ

Устаноўчы з'езд Беларускага рэспубліканскага аб'яднання міжкалгасных будаўнічых арганізацый адбыўся ў Мінску.

З'езд уступным словам адкрыў першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР У. Лабанок.

Міжкалгасныя будаўнічыя арганізацыі арганізоўваліся ўжо ў 1957 годзе дзеля забеспячэння ўзрослых патрэб у будаўніцтве.

### ПІЯНЕРСКАЙ

У Мінску адбыўся пленум Рэспубліканскага Савета піянерскай арганізацыі. З дакладам «Аб паляпшэнні кіраўніцтва саветаў піянерскай арганізацыі дзейнасцю піянерскіх атрадаў і дружын пачатковых школ» выступіла старшыня Савета, сакратар ЦК камсамола Беларусі, Н. Нерад.

У рабоце пленума прыняў удзел І. Жабіцкі — першы сакратар ЦК камсамола Беларусі.

### ПЛЕНУМ

Адбыўся пленум праўлення Беларускага аддзялення Таварыства савецка-чэхаславацкай дружбы. Удзельнікі пленума заслухалі даклад аб дзейнасці аддзялення ў мінулым годзе і намецілі план працы на г.г.

(С. Я.)



## ПОЛЬШЧА

### ПРАМОВА ТАВ. УЛ. ГАМУЛКІ

На заканчэнне адбыўшагася II Пленума ЦК Польскай аб'яднанай рабочай партыі з прамовою выступіў I сакратар ЦК партыі Уладзіслаў Гамулка. Падсумаваў ён дыскусію над новымі метадамі планавання і высветліў некаторыя дыскусійныя праблемы.

Пры новых метадах планавання разыходзіцца пра тое, каб да працы над апрацоўкай плана ўцягнуць як найшырэйшы гаспадарчы, тэхнічны, адміністрацыйны і партыйны актыў. Цэнтралізацыя планавання не пярэчыць магчымасцям развіцця найшырэйшай ініцыятывы калектываў прадпрыемстваў. Якраз наадварот: чым больш будзе ініцыятывы прадпрыемстваў, тым лепш функцыяніраваць будзе цэнтральнае планаванне. Новы метад планавання, — заявіў прамоўца, — будзе ў пэўным сэнсе адваротнасцю папярэдняга метаду. Хочам будаваць план знізу ўверх, ад прадпрыемстваў, праз аб'яднанні, да Камісіі планавання пры Савеце Міністраў, а не наадварот, як было дагэтуль.

Новы метад датычыць апрацоўкі плана на 1971—1975 гады, але выкарыстанне гэтага метаду пачнецца ўжо ў бліжэйшыя месяцы.

У наступнай частцы свайго выступлення тав. Ул. Гамулка перааналізаваў праблему планаваных рэзерваў. Указаў на недахопы ў датагачаснай сістэме іх акрэслівання і выкарыстоўвання і растлумачыў істоту новых прынцыпаў. Гаворачы аб структуры планаваных інвестыцый I сакратар ЦК ПАРП звярнуў увагу на неабходнасць значна хутчэйшага развіцця, чымсьці дагэтуль, такіх галін прамысловасці як машынабудаўніцтва, аўтаматыка, электратэхніка.

Гаворачы аб неабходнасці выкарыстання прадукцыйных рэзерваў Уладзіслаў Гамулка ўказаў на вялікія існуючыя ў гэтай галіне занядбанні. Маем вялікія цяжкасці ў пакрыцці патрэб на сыравіну і матэрыялы неабходныя ў наступаючай 5-годцы. Зарысоўваецца востры недахоп нафты, штучных рэчываў, цэлюлозы, пракатной сталі. Матэрыялы гэтыя мусім прывозіць з-за мяжы. Але трэба зрабіць усё, каб цяжкасці гэтыя магчыма зменшыць. Можна гэта зрабіць перш за ўсё праз тэхнічны прагрэс. У сувязі з тым неабходным з'яўляецца палепшанне працы бюро праектаў.

У заканчэнні свайго выступлення Ул. Гамулка сцвердзіў:

«Галоўным нашым заданнем з'яўляецца зараз палітычна-грамадская падрыхтоўка партыйных арганізацый і рабочых калектываў да зразумення праз іх істоты таго, што з'яўляецца зместам нашага пленума. Заданне гэтае вяжацца з пабуджаннем ініцыятывы рабочага самакіравання тэхнічных арганізацый і адміністрацыі. Прызвычаіліся мы да старога, трэба пераламаць старыя звычкі, зразумець істоту новага».

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### АЖЫЦЦЯЎЛЕННЕ АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВАЎ

Гайнаўскі камбінат драўнянай прамысловасці першы на Беласточчыне прыняў абавязацельствы ў гонар V з'езда партыі, 50-годдзя адраджэння Польшчы і 25-ай гадавіны народнай улады. Як нас паведамляюць, ажыццяўленне гэтых абавязацельстваў праходзіць планава і паспяхова. Некаторыя цэхі (напрыклад, цэх склад ігластай тарціцы) заявілі аб поўным выкананні сваіх абавязацельстваў.

### АКТЫЎНЫЯ НАСТАЎНІКІ

Настаўнікі з Белавежы, аб'яднаныя ў звяно ля Навуковай станцыі па даследванню малочнай жывёлы, грамадскім чынам сабралі 12 тысяч 500 злотых, якія пераказалі на фонд пабудовы дзіцячага саду ў Белавежы. Яны 125 гадзін працавалі грамадска ў лесе і на пабудове дарог. На іх конце шмат іншых карысных грамадскіх мерапрыемстваў.

### БЕЛЬСКІЯ ЗМВ-ОЎЦЫ

Нядаўна павятовая арганізацыя Саюза вясковай моладзі ў Бельскім павеце дасягнула ліку 3000. Трохтысячны членскі білет атрымаў на ўрачыстым сходзе Ян Скарбіловіч з вёскі Аўгустова. Члены ЗМВ у Бельскім павеце актыўна адзначаюць 25-годдзе ПНР.

### МАЛАКО З ГАЙНАЎШЧЫНЫ

У мінулым годзе сяляне Гайнаўскага павета прадалі акруговай малачарскай спулдзельні ў Гайнаўцы амаль 17 мільёнаў літраў малака, на 1 мільён 700 тысяч літраў больш, як у папярэднім 1967 годзе. Найбольш актыўнай па продажу малака аказалася вёска Сухавольцы, дзе ў сярэднім мясцовая злеўня прымала ўдзень па 600 літраў.

### ФЕСТЫВАЛЬ ЭСПЕРАНТЫСТАЎ

Беласток з'яўляецца родным горадам доктара Людвіка Заменгофа, які стварыў міжнародную мову — эсперанта. Таму горад Беласток быў выбраны на месца першага агульнапольскага фестывалю культуры польскай эсперанцкай моладзі. Фестываль працягваўся 4 дні. Маладыя эсперантысты абмяркоўвалі ролю гэтай міжнароднай мовы ў сучасным свеце, чыталі вершы вядомых польскіх паэтаў перакладзены на эсперанта і творы пісьменнікаў, якія ў сваёй творчасці карыстаюцца эсперанцкай мовай. Пры нагодзе варта прыпомніць, што на эсперанцкую мову між іншым перакладзены: «Пан Тадэуш» А. Міцкевіча, «Лялька» і «Фараон» Б. Пруса, «Кво вадіс» Г. Сянкевіча і «Марта» Э. Ажэшка.

### У ТЭАТРЫ

Беластоцкі дзяржаўны драматычны тэатр імя А. Вянгеркі выступіў з п'есай эстонскага пісьменніка Эгона Ранета «Браканьеры» («Клусоўнікі»). Прэм'ера гэтай п'есы адбылася на малой сцэне тэатра 13 красавіка г.г.

(вр)




**Niedziela, 20.IV.**

8.55 Program dnia. 9.00 Dla młodych widzów: „Trójmecz harcerski". 9.45 TV Kurs Rolniczy: „Wysokie nawożenie okopowych". 10.20 „Przypominamy, radzimy". 10.30 „Chłopcy" — film bułg. 10.45 „Szałasy tatrzańskie" („Tramp"). 11.05 „Kronika 50-lecia Kraju Rad. 11.30 Dziennik. 11.55 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej Polska — Luxemburg (eliminacje Piłkarskich Mistrzostw świata). 13.50 „Mozart — kompozytor popularny". 14.40 „Przemiany". 15.10 Dla młodych widzów: „Leśna przygoda". 15.40 „Ludzie i zdarzenia". 15.55 „My-69" — teleturniej. 17.05 Estrada Literacka: „Legenda o zmierzchu krainy Kasz" i „Lutnia Gasira". 18.00 „Klub Sześciu Kontynentów'. 18.40 „Spotkanie z Lidią Wysocką". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Dynastia z Essen". 20.45 „Stazione Termini" — film fab. wł. 22.15 Wiadomości sportowe.

**Poniedziałek, 21.IV.**

15.25 Program dnia. 15.30 i 22.30 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.30 „Echo Stadionu". 17.50 „Autoportret Rembrandta" — film dok. franc. 18.15 Kino Krótkich Filmów. 18.45 „Eureka". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Lenin — ostatnie myśli" — film radz. 20.30 „Międzynarodowy Koncert Pokoju" (Budapeszt). 21.40 „Horyzonty". 22.10 Dziennik.

**Wtorek, 22.IV.**

9.00 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — A. Czechow — „Wiśniowy sad". 9.35 „Lenin w Polsce" — film fab. radz. 11.10 Przerwa. 12.00 Dla szkół: (kl. II—III) „Historia z zapałkami". 12.20 Przerwa. 12.45 i 14.55 Przysposobienie Rolnicze: „Doświadczalnictwo nawozowe w gospodarstwach rolnych". 13.20 Przerwa. 14.50 Program dnia. 15.30 i 22.40 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 „Nad Wołgą" — film radz. 17.00 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Lenin w Polsce" — film fab. radz. 21.40 „Kontakty". 22.10 Dziennik.

**Środa, 23.IV.**

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Prąd trójfazowy". 10.25 „Człowiek z fotografii" — film fab. jug. 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Zasady". 12.25 Przerwa. 14.55 Program dnia. 15.00 „Matematyka w szkole": „Elementy logiki w szkole średniej" cz. II. 15.30 i 22.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Latający Holender w Rotterdamie". 17.20 „Z drugiej strony szklanego ekranu". 17.35 TV Kurier Warszawski. 17.50 „Sylwetki X Muzy" — Jerzy Passendorfer. 18.15 „Panorama Literacka". 18.45 „Nad Odrą i Bałtykiem". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.00 „Ludzie Dobrej Roboty" — felieton TV. 20.15 „Słuchamy i patrzymy — VI Koncert Wielkiej Orkiestry Symfonicznej PR i TV dla młodzieży szkolnej. 21.15 „Światowid". 21.45 PKF. 21.55 „Mistrz tańca" — film TVP („Opowieści niezwykłe"). 22.25 Dziennik. 22.30 Sprawozdanie film. z Mistrzostw Świata w piłce nożnej z meczu Bułgaria — Luxemburg.

**Czwartek 24.IV.**

10.55 Dla szkół: (kl. VII) Język Polski — „Henryk Sienkiewicz". 11.20 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Życie codzienne w średniowiecznym mieście". 12.25 Przerwa. 15.25 Program dnia. 15.30 i 22.50 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.50 TV Kurier Lubelski. 18.10 Magazyn Medyczny. 18.40 „Przegląd muzyczny. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Trybuna Telewizyjna. 20.35 Teatr Sensacji: Z. Safian — „Dwa wyroki". 22.00 „Refleksje". 22.30 Dziennik.

**Piątek, 25.IV.**

10.00 „Yokmok" — film fab. pol. 11.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Zajęcia techniczne — „Kropka — kreska". 13.15 Przerwa. 14.55 Program dnia. 15.00 Dla szkół: (kl. I lic.) Przysposobienie Obronne — „Pierwsza pomoc w nagłych wypadkach". Cz. I. 15.30 i 22.40 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: Kino „Ptyś". 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka". 17.15 TV Kurier Mazowiecki. 17.30 „Nie tylko dla pań". 17.50 „Don Kichot" — film. 18.20 „Za kierownicą". 18.50 „Popularne melodie gra orkiestra dęta" — program rozrywkowy. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Czwarta zmiana". 20.40 Teatr TV: R. Liskowacki — „Brzeg". 22.05 „Rozmowy o książkach". 22.20 Dziennik.

**Sobota, 26.IV.**

8.20 „Atalanta" — film fab. fr. 9.55 Dla szkół (kl. VII) Geografia: „Norwegia". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół (kl. VIII) Nauka o człowieku: „Sprawy piętnastolatków", program I. 11.25 Przerwa. 15.00 Program dnia. 15.05 TV Kurs Rolniczy: „Metody uproszczonej uprawy roślin okopowych". 15.40 Wychowanie fizyczne naszych dzieci. 15.55 Program Tygodnia. 16.15 „Na zdrowie". 16.35 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: „Konkurs pięciu milionów". 17.50 „W przestworzach czyli ciekawe opowieści lotników". 18.05 „Encyklopedia morza" — film. 18.55 „Wieczorne rozmowy". 19.20 „Dobranoc". 19.30 „Monitor". 20.10 „Proszę dzwonić" — program rozrywkowy. 21.10 „Klaps". 21.40 Dziennik. 21.55 Wiadomości sportowe. 22.05 „Proszę dzwonić" — ciąg dalszy. 22.20 „Atalanta" — film fab. fr.




**Piątek, 18 kwietnia**

8.00 Dziennik. 8.15 „Cuda Przyrody". 8.30 Drogami pięciolatki". 9.00 TV spektakl muzyczny. 15.25 Program dnia. 15.30 „Panorama nowin". 15.45 „Drogami wiosny". 16.00 Finał III Wszechzwiązkowego Festiwalu Filmów TV. 18.30 „Sztafeta nowin". 19.15 „Kronika życia muzycznego republiki". Rok 1961". 20.00 Podróże TV. 20.45 Koncert popularnej muzyki ludowej. 21.00 Sprawozdanie z mistrzostw świata w szachach.

**Sobota, 19 kwietnia**

8.00 Program rozrywkowy. 8.30 „Nieśmiertelny obraz". 8.50 Film animowany dla dzieci. 9.00 „Muzyczny turniej miast". „Parada zwycięzców". Finał. 10.30 „Ludowi kontrolerzy". 11.15 „Szkatułka muzyczna". 11.25 O gazetach partyzanckich. 11.45 Przegląd międzynarodowy. 12.05 Teatr TV dla dzieci. 14.00 Serwis handlowy. 14.45 TV barwna. 17.10 „Ugrum-rzeka". Film TV. II seria. 18.30 „Świat socjalizmu". 19.00 „Klub wesołych i dociekliwych". 21.20 Sprawozdanie z mistrzostw świata w szachach. 21.10 Program rozrywkowy z NRD.

**Niedziela, 20 kwietnia**

8.00 „Kiosk muzyczny". 8.30 „Skarby Leningradu". 9.00 „Echo". 9.45 „Święto wiedzy". 11.00 Koncert dla żołnierzy. 13.00 Hokej. „Spartak" — CSKA. 15.15 „Godzina wiejska". 16.15 „Klub filmowy".17.15 „Ugrum-rzeka". Film TV. III seria. 18.20 Kronika filmowa. 18.30 „Siedem dni". 19.15 Spektakl — koncert o Leninie. 19.50 TV barwna. 21.20 „Tydzień sportowy".

 

## Сырыя ці вараныя?



Курыныя яйкі маюць вялікую пажыўную вартасць: у іх ёсць усе найважнейшыя харчавыя рэчывы ў вельмі добрых прапорцыях у канцэнтраваным, але вельмі лёгка засвойваемым стане. У іх ёсць таксама патрэбныя арганізму амінакіслоты і ненасычаныя тлушчавыя кіслоты, мінеральныя солі, вітаміны А, Д, Е, F і К і нямала вітамінаў з групы В. Колер жаўтка залежыць ад караціну, з якога ў арганізме ўтвараецца вітамін А.

Хоць у яйках ёсць даволі шмат халестэролу — тлушчавай субстанцыі, ад празмернай колькасці якой у нейкай ступені звязана развіццё артырыясклерозу. Але за гэта ў іх ёсць і шмат халіну, рэчыва, якое супрацьдзейнічае адкладанню халестэролу ў крываносных сасудах, пры чым у такіх колькасцях, як ні ў адным іншым прадукце.

Што датычыць пажыўнасці, дык сырыя яйкі зусім не лепшыя ад вараных. У сырых яйках ёсць рэчыва, якое блакіруе прысваенне арганізмам вітаміна А, які адыгрывае вялікую ролю ў абмене рэчываў і ва ўтрыманні адпаведнага стану скуры. Апрача таго, у сырых яйках шмат розных мікробаў, якія пранікаюць у яйка праз поры ў шкарлупіне. Лепей таксама не варыць крутыя яйкі, бо звараны бялок цяжкастраўны.

Найлепшыя яйкі — вараныя ўсмятку, гэтак званыя, у мяшочак.

У сырых яйках відаць часам цёмна-чырвоныя камячкі, найлепш відочныя пры прасвятленні яек, калі правяраюць іх свежасць. Пераважна людзі баяцца есці такія яйкі. Але гэтыя камячкі — нічога страшнага. Яны паявіліся ў яйку ў выніку пакалечанай слізістай абалонкі ў курыцы, гэта кропелькі спечанай крыві. Такія кропелькі крыві зусім бясшкодныя і няма патрэбы іх баяцца. Калі каму-небудзь непрыемна такія яйкі есці, павінен камячкі аддзяліць і выкінуць.

Зусім іншая справа — гэтак званае крывавае колца — крываносная сістэма зародка, які паспеў развіцца ў яйку, якое ляжала ў тэмпературы 21—30°С. Яйкі з такім дэфектам спажываць нельга.

Часам здараюцца яйкі з падружоўленым бялком або жаўтком. Такія яйкі лепей выкарыстаць да цеста. Ружовы адценак у яйках сведчыць аб тым, што ў час фармавання яйка ў яго дасталася кропелька крыві.

Калі хтосьці хоча даўжэй пратрымаць свежыя яйкі, павінен перахоўваць іх у прахладным месцы, але каб тэмпература не была ніжэй 2°С (плюс 2°!).

(я)

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

**Ці ёсць нафта пад Ледавітым акіянам?**

На гэта пытанне начальнік аддзела савецкага Усесаюзнага навукова-даследчага геолага-разведчага нафтавага інстытута М. К. Калінка адказвае станоўча. На яго думку, пад Ледавітым акіянам скрыты велізарныя запасы нафты і газу.

— Цяпер на зямным шары адкрыта каля 330 падводных месцанараджэнняў нафты і газу, — сказаў вучоны. — Але найбольш буйныя знаходкі, безумоўна, яшчэ наперадзе. У гэтым сэнсе Ледавіты акіян лічыцца найбольш перспектыўным: яго геалагічная будова вельмі падобная на структуру Мексіканскага заліва, багатага нафтавымі залежамі. Пры дапамозе шчылін у Арктыцы выяўлены асадачныя пары, якія нярэдка аказваюцца сховішчамі гаручага. Яго сляды не раз знаходзілі даследчыкі на астравах і ўзбярэжжы Ледавітага акіяна.

## БЕЛАРУСКАЯ МОДА



**Касцюм мужчынскі з джэрсі, паўсядзённы.**

**Фота В. Казлова**

## Лекар — прырода

Красавік. Вясна трывала ўступае ў свае правы. Прачынаецца прырода. Пупышкі на соснах і бярозах набраклі, але яшчэ не крануліся ў рост. Самы час пачынаць іх нарыхтоўку. Але перад гэтым карысна ведаць іх уласцівасці.

Сасна мае не толькі гаспадарчае значэнне. Спрадвеку заўважана, што людзі, якія хварэюць на туберкулёз лёгкіх, адчуваюць сябе лепш, а нярэдка і выздараўліваюць, калі дыхаюць паветрам сасновага бору. Справа ў тым, што ігліца сасны выдзяляе вялікую колькасць фітанцыдаў — рэчываў, якія згубна дзейнічаюць на многія мікробы, у тым ліку і на туберкулёзныя палачкі.

Ігліца сасны ўтрымлівае вітаміны С і К, карацін, дубільныя рэчывы. Вялікі попыт у медыцыне маюць сасновыя пупышкі — парасткі, якія не распусціліся. Яны з'яўляюцца на канцах галінак і звычайна растуць па некалькі штук разам у выглядзе каронак. Збіраюць іх у час набракання, калі пупышкі яшчэ не распусціліся. Іх зразаюць нажом, пакідаючы толькі тры міліметры галінкі, каб каронкі не распадаліся. Сушаць пупышкі на паветры, пад павеццю ці ў памяшканні, якое добра праветрываецца. У медыцыне сасновыя пупышкі выкарыстоўваюць для настою, які ўжываюць як дэзінфекцыйны сродак і пры лячэнні бранхіту.






**Гімалаі.**

## АБАРЫГЕНЫ СІКІМА

Далёка на ўсходзе Гімалаяў, заціснутае паміж Кітаем, Непалам, Індыяй і Бутанам згубілася ў гарах невялікае горнае княства Сікім. Незвычайна прыгожая прырода гэтага краю. Пакрытыя снегам грады высокіх гор, сярод якіх вылучаецца Кічынджунга вышынёй у 8.585 метраў, чаргуюцца тут з далінамі пакрытымі густымі лясамі і субтрапічнай расліннасцю. Па схілах гор лепяцца старажытныя будыйскія манастыры і маленькія вёсачкі.

Сярод стракатага насельніцтва Сікіма, што складае каля 170 тысяч чалавек, асабліва цікавая народнасць лепча. Гэтыя міралюбныя і дабрадушныя людзі — абарыгены Сікіма. Цяпер іх засталося каля 6 тысяч чалавек, і жывуць яны ў спецыяльна адведзеных лясных раёнах. Знешне лепча вельмі падобны да тыбетцаў. Аднак і па сваёй мове, якая лічыцца адной з самых старажытных у свеце, і па ладу жыцця адрозніваюцца ад іх. Да свайго жылля лепча звычайна выбіраюць месцы, размешчаныя на вышыні 1—2 тысячы метраў над узроўнем мора, дзе пасяляюцца дробнымі групамі. Асноўны занятак маленькага народа — збіранне пладоў, ягад і прыдатных да яды карэнняў.

Мнагамужжа, якое мае месца ў некаторых гімалайскіх раёнах, сярод лепча забаронена. Вельмі рэдка бываюць і выпадкі мнагажонства. Пагадненні аб шлюбе заключаюцца бацькамі, калі жаніх і нявеста знаходзяцца ў дзіцячым узросце. Шлюбныя сувязі вельмі моцныя. За апошні час пачасціліся выпадкі ўступлення ў шлюб лепча з непальцамі. Апошнія не маюць права на ўладанне зямлёй у раёнах адведзеных да лепча. Аднак яны прыходзяць туды ў якасці сельскагаспадарчых рабочых і нярэдка жэняцца з мясцовымі дзяўчатамі, становячыся, такім чынам, законнымі саўладальнікамі зямельных угоддзяў.

Паводле паведамлення індыйскага друку, колькасць народнасці лепча з кожным годам скарачаецца. Шэраг газет выказвае апасенне, што калі працэс выміранне не спыніцца, то ў недалёкім будучым гэта народнасць можа зусім знікнуць з твару зямлі.

**В. Осіпаў**

## Чвэрць стагоддзя назад




У нашым раёне дзеянне наступіла цішыня. Мясцовыя жандары, амсткамісары падабрэлі. Амсткамісар з Боцькаў лупіў кіём кожнага, хто прыходзіў і дакладваў, што ноччу вёску наведаў нейкі партызанскі атрад.

— Ты сам бандыт! — крычаў амсткамісар. — На маёй тэрыторыі жывуць парадачныя людзі, у мяне няма ніякіх бандытаў, і я аб гэтым не хачу слухаць!

Пабіты селянін вяртаўся дамоў і думаў: зразумей тут, чалавеча, што робіцца на гэтым божым свеце. З аднаго боку кажуць паведамляць аб кожным партызане. Не павядоміш, прыдуць за дзень, два, пераб'юць усю сям'ю, спаляць хату. Даведаюцца тыя з лесу, што хадзіў дакладваць, таксама не даруюць. І дагадзі тут, чалавеча...

Дывізія каўпакоўцаў прайшла, як бура. Сяляне, якія рэйд дывізіі прынялі за фронт і цешыліся, што неўзабаве прыйдзе вызваленне, зноў паспускалі насы, зноў павінны былі дастаўляць немцам кантынгент: збожжа, мяса, яйкі, масла, малако.

У ваколіцы запанаваў паморак свінняў. Нямецкія ветэрынары правялі доследы і нічога не маглі сцвердзіць. А свінні дохлі масава. Кантынгент мяса паменшыўся. Выявілася, што не быў гэта ніякі паморак, а сялянская хітрасць. Навошта аддаваць немцам мяса, а самому есці з постам? Хапіла свінчу насадзіць на рыла мяшочак з пытляванай мукой, завязаць яго і вяпрук душыўся, не пакідаючы ніякага следу. Потым вядзерца вады, абмыць рыла і справа скончана. Праўда, вяпрук не быў белы, сінеў, бо не спускалі з яго крыві, але ж мяса было чыстае, здаровае, можна было яго есці.

Каля дваццатага сакавіка 1944 года атрымаў я з Бельска ад Косці інфармацыю, што ў тым і тым дні, а той і а той гадзіне выедзе з Бельска ў Сямяцічы шэф бельскага гестапа Пауль Шрэдар. Неадкладна даручыў я мінёрскай групе падрыхтаваць тры міны. Яны неўзабаве былі зроблены. Мініраванне шашы даверана Дзікунову з групай партызан. Я раіў паставіць міны так, каб гестапаўскі самаход абавязкова трапіў на адну з іх.

Група выйшла на змярканні. Ішла яна на адрэзак шашы паміж вёскамі Андрыянкі-Дзяткавічы. Пасля поўначы партызаны былі на месцы. Аднак адразу напаткалі на цяжкасці. Не ўзялі з сабою ніякіх прыладаў, каб выдзяўбсці ямкі ў шашы. Толькі на месцы заўважылі сваю памылку. Дзікуноў выслаў двух партызанаў шукаць лом, кірку, ці нейкі іншы прыдатны інструмент. Наколькі помню, партызаны гэты пайшлі ў вёску Ваенец і вярнуліся са звычайнай сялянскай сякерай, якую знайшлі на нейкім сялянскім панадворку. Добра было і гэта.

Выдзяўблі ямкі, залажылі міны, замаскіравалі і адышлі метраў трыста ад шашы, ў паблізкі лясок. Адсюль мелі назіраць за эфектам сваёй працы.

А сёмай раніцы партызаны ўбачылі на шашы з боку Дзяткавіч параконную сялянскую фурманку. Перад коньмі, падскокваючы, бегла з задзёртым хвастом жарабя.

— Ох!... тваю маць! — крыкнуў Дзікуноў. — Халеру яму ў бок, сапсуе ўсю работу і сам узарвецца. Міша, бяры мой наган і бяжы завярні яго, хутчэй!

Селянін, як на злосць, лупіў коні пугай і воз грымеў па шашы, хутка набліжаючыся да месца, дзе чакала смерць.

Міша, бегучы, крычаў на фурмана, але той яго не чуў, відаць, ляскат колаў заглушыў крык. Міша падняў уверх руку з наганам, націснуў кручок... Гукнуў выстрал. Селянін агляглянуўся, убачыў Мішу, раптоўна пацягнуў да сябе лейцы, коні сталі дыба — фурманка спынілася. Партызаны ўздыхнулі з палёгкай. Да мінаў засталося 30—50 метраў. Міша дабег да фурманкі:

— Заварочвай, праезд шашою забаронены! — крыкнуў па-руску загадным тонам.

— Дык пане таварышч, я вязу цяжка хворую, да лекара, у шпіталь у Бельск, — тлумачыў селянін.

Міша глянуў на фурманку і толькі цяпер убачыў, што ў ёй ляжыць на саломе, з падушкай пад галавой, накрытая коўдрай хворая жанчына. Зрабілася дурна.

— То нічога, усё роўна заварочвай, сюды ехаць нельга. Там, пры шашы, немцы, расстрэльваюць людзей, застрэляць і цябе, — хлусіў Мішка. — Аб'едзь палявымі дарогамі, не шашою...

Селянін павярнуў коні.

Каля гадзіны восьмай партызаны



 

# ТРЫБУНА чытачоў

### 3-ХТЫСЯЧНЫ ЧЛЕНСКІ БІЛЕТ

Нядаўна ў пачатковай школе ў Аўгустове ў Бельскім павеце адбылася ўрачыстасць адзначэння 25-ай гадавіны Народнай Польшчы. Арганізаваў яе Саюз вясковай моладзі. У гэтай урачыстасці ўзялі ўдзел: сакратар павятовага Камітэта партыі Раман Матосюк, старшыня павятовага праўлення ЗМВ Ян Войцюк, члены мясцовай партыйнай арганізацыі і члены ЗМВ з Аўгустова і суседніх вёсак.

На гэтай урачыстасці сакратар КП для пяці членаў ЗМВ уручыў кандыдацкія білеты, а старшыня павятовага праўлення ЗМВ — Івану Скарбіловічу 3-тысячны членскі білет ЗМВ-у ў Бельскім павеце.

На рукі сакратара КП паасобныя гурткі ЗМВ склалі рапарт з прынятых абавязацельстваў у гонар 25-ай гадавіны нашай краіны. Урачыстасць закончылася мастацкай часткай аматарскага калектыву «Мэлёдыйнэ промыкі» з Бельска.

**В. Фалькоўскі**
Бельск

### НАСТАЎНІКІ ЛІТАРАТУРЫ

30 сакавіка ў Беластоку адбыўся чарговы (трэці) сход настаўніцкага літаратурнага клуба пры Саюзе польскіх настаўнікаў. На гэтым сходзе чыталі свае апавяданні і вершы: М. Паўліцкая, А. Струмінская, К. Іванчынская, Т. Кабац, Н. Вішнеўская, К. Шыльборскі і В. Салановіч. Настаўнік з Патокі ў Беластоцкім павеце Мікола Краўчук чытаў вершы напісаныя на беларускай мове.

**К. М.**
Беластоцкі павет

### СУСТРЭЧЫ Ў БЕЛЬСКІМ ЛІЦЭІ

Нядаўна наведаў Бельскі беларускі ліцэй Язэп Жэлязоўскі, былы шафёр Леніна. Вучні з зацікаўленнем выслухалі аб правадыры рэвалюцыі і аб жыцці самога Жэлязоўскага. На заканчэнне сустрэчы вучні і настаўнікі зрабілі памятны здымак з Язэпам Жэлязоўскім.

*

28 сакавіка г.г. у ліцэі адбылася, можна сказаць, асведамляючая сустрэча з прадстаўніком міліцыі. На прыклад, ён расказаў, якую небяспеку маюць рэшткі з вайны, гэта значыць: гранаты, міны, а нават узрыўныя цацкі, якія былі спецыяльна раскінуты. Міліцыянер заклікаў вучняў, каб былі асцярожнымі і перасцерагалі іншых. Многа месца прысвяціў ён таксама паводзінам вучняў на станцыях. Гэта сустрэча многаму навучыла вучняў.

*

29 сакавіка вучні адзінаццатых класаў мелі сустрэчу з выкладчыкам Варшаўскай палітэхнікі. Расказаў ён аб развіцці асветы ў даваеннай Польшчы і ў перыяд Народнай Польшчы. Некалькі асоб выказала ахвоту паступіць вучыцца ў Варшаўскую палітэхніку.

(В-ка)
Бельскі ліцэй.

---

ўбачылі з боку Бельска чорны легкавы самаход. Сачылі за ім не дыхаючы. Наближаўся да закладзеных мін. Трапіць; ці не трапіць?

Трапіў! З-пад калёс самахода бліснуў агонь, стоўб пылу. Потым пачуўся гук узрыву. Самаход урыўся пад адкосам у роў, але не загарэўся.

— Хіба канец ім! — сказаў да таварышоў Дзікуноў. — Уцякайма! Няма чаго марудзіць, белы дзень!

Кат з бельскага гестапа, жывадзёр з турмы на Галавеску, злачынца, адказны за забойства жыхароў Райска, за смерць звыш тысячы ахвяр у Піліцкім лесе пад Бельскам, за дзесяткі іншых звярыных злачынстваў — Пауль Шрэдар — меў неверагоднае шчасце. Міна вырвала задні мост самахода, адляцелі заднія колы, а злачынца і яго шафёр, хоць з гузамі і запаскуджанымі кальсонамі, засталіся жывымі.

Калі, вярнуўшыся, Дзікуноў расказаў мне пра сцэну з фурманкай на шашы, я падумаў і сказаў:

— Гэта нам, таварышы, навука. Асляпляе нас часта сама мэта, якую ставім перад сабой. Імкнучыся яе ажыццявіць, не думаем аб тым, якія могуць наступіць пабочныя ўскладненні, якія могуць пашкодзіць не немцам, але таксама блізкаму нам насельніцтву. Мы павінны зрабіць з гэтага адпаведныя вывады.

**Ян Анацік**

### З ДАПАМОГАЙ АДЗІНОКІМ

Гайнаўскі ПЦК (Польскі Чырвоны Крыж) арганізаваў 4-охмесячны курс сясцёр пагатоўя ПЦК, які кончыла 23 жанчыны. У належнай іх падрыхтоўцы да выконвання нялёгкіх абавязкаў — дапамагаць старым, якія неаднойчы не маюць нікога з сям'і — шмат працы і энергіі прысвяціла кіраўнічка курса Вікторыя Грынявецкая. Сёстры будуць апекавацца калекамі і старымі, якія не павінны займаць месц у бальніцах. Іх абавязкам будзе дапамагчы зварыць страву, прывесці ў парадак пакой, пагутарыць з падапечнымі і г.д. Сёстры такім патрабуючым апекі людзям будуць дапамагаць, даваць лякарствы і ўколы.

**Я. Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

### УЛАСНІКІ ТРАКТАРАЎ

Вёска Плёскі даволі вялікая. Існуе тут сельскагаспадарчы гурток, які карыстаецца вялікай папулярнасцю. Сяляне Плёсак маюць многа сельскагаспадарчых машын. Двух жыхароў гэтай вёскі купілі сабе трактары. Купілі яны іх з «пшэтаргу» ў Бельску. Нашым сялянам Міхалу Васілюку і Віктару Сідаруку лёгка будзе апрацоўваць гаспадарку.

Л. Л.
Плёскі

### ПАЭТЫЧНЫ ФЕСТЫВАЛЬ

30-га сакавіка ў агульнаадукацыйным ліцэі ў Бельску Падляшскім адбыўся павятовы агляд паэтычнага фестывалю, які быў прысвечаны 25-ай гадавіне Народнай Польшчы. Перад гэтым адбыліся агляды ў паасобных асяроддзях, у якіх узяло ўдзел больш 200 асоб. Да павятовага агляду прыступіла 25 чалавек з сярэдніх школ павета, а таксама аматары, якія не вучацца ў сярэдніх школах.

У катэгорыі школьнай моладзі тры першыя месцы занялі вучні з агульнаадукацыйнага ліцэя: Генрых Лазінскі, Гражына Дэнізяк і Галіна Антыховіч. У групе пазашкольных аматараў найлепшымі былі: Данута Лэнцкая і Аліна Лукашэвіч з Боцек.

Ф. В.
Бельскі павет




**Дарагое Сэрцайка!**

Жыву я ў вёсцы і працую на гаспадарцы з бацькамі. Мне 27 год. У нас у вёсцы ёсць многа моладзі, збіраемся мы ў клубе, або на вечарынкі ходзім да дзяўчат. І вось пачала мне падабацца дзяўчына з нашай вёскі. Спачатку думаў я, што гэта проста пройдзе, як гэта здаралася ў мінулым, але ўсё сталася інакш, як я думаў. Спатыкаючыся штодзень з ёю, яна ўсё мне больш падабалася і я зразумеў, што пакахаў яе. Марыся прыгожая, мілая, ветлівая дзяўчына, ёй 18 год. У адносінах да мяне яна мілая і ветлівая. Праз нейкі час я прызнаўся ёй у каханні, думаў, што яна зменіцца ў адносінах да мяне, аднак яна зусім не змянілася, сталася яшчэ больш ветлівай і мілай. На маё пытанне, што яна аб гэтым думае, яна адказала мне, што яшчэ не збіраецца выходзіць замуж (хоць я аб жаніцьбе нічога не ўспамінаў), больш нічога мне не сказала. Стараўся я забыць яе і не думаць, але нічога ў мяне не выходзіць, я кахаю яе і проста сам не ведаю, як гэта перажыць. Ужо можа быў бы ажаніўся, але аб іншых дзяўчатах не магу думаць, проста яны для мяне не існуюць. Цяжка жыць без кахання, але яшчэ цяжэй з каханнем без узаемнасці.

Парай, Сэрцайка, што рабіць?

Коля з Бельскага павета

**Дарагі Коля!** Не ведаю, чаму ты так наракаеш, калі няма патрэбы. Ты ж сам пішаш, што калі прызнаўся Марысі ў каханні, дык яна яшчэ больш зрабілася мілай і ветлівай. Нічога, што Марыся не адказала на тваё прызнанне, маўчанне — знак згоды, як гаворыць прымаўка. Будзь цярплівым, пачакай трохі з жаніцьбай, хай і Марыся пераканаецца ў сталасці сваіх пачуццяў да цябе, тады напэўна згодзіцца быць тваёй жонкай.

Жадаю вам усяго добрага
**Сэрцайка**

### МАЛОЧНАЯ ГАЙНАЎШЧЫНА

Гайнаўская акруговая малачарня купіла ў мінулым годзе 16900000 літраў малака. Гэта ў параўнанні з 1967 годам на 1700000 літраў малака больш. У Гайнаўскім павеце малако дастаўляюць на пункт скупу жыхары з 14 вёсак. Астаецца толькі 32 вёскі, якія малака не прадаюць дзяржаве, а гэта таму, што недастатковая колькасць злеўняў. І так, не прадаюць малака вёскі ГРН-аў Нараўка, Палічна і Белавежа.

Усіх у павеце пунктаў скупу малака налічваецца 69. Малачарня ў Гайнаўцы скупляе зімою 30 тысяч літраў малака ў дзень, летам два разы больш. Найлепш працуе злеўня малака ў Сухавольцах. Ёю кіруе Юры Якубоўскі. Штодзень прыймае ён 600 літраў сырадою. Акуратна вядзе дакументацыю, сочыць за парадкам. Усе дастаўцы з'яўляюцца членамі акруговай малачарні. Гайнаўская малачарня мае 717 такіх членаў. Яна даволі добра дбае аб сваіх вясковых працаўнікоў у злеўнях. У гэтым годзе 57 пунктаў будзе адрамантавана. Да некаторых будзе даведзены жужаль, каб можна было не гразнучы ў балоце пад'язджаць пад рампу.

Працаўнікі злеўняў атрымоўваюць прэсу. Важна і тое, што ў г.г. больш гаспадароў будзе браць з малачарні не толькі маслянку, але і сыроватку.

**Янцал**
Гайнаўка



**Рамесная школа і тэхнікум драўлянага промыслу ў Гайнаўцы.** **Ц. Я.**
Гайнаўка

### ЧЫЖОЎСКАЯ ЖВІРОЎНЯ

Грамадская жвіроўня, што ў Чыжах, дзесяць год таму назад была адной з найлепшых на Гайнаўшчыне. Была там вялікая гара. А жвіру было многа, якога толькі захочаш, такога набярэш. Спачатку не толькі чыжоўскія гаспадары, але таксама гаспадары суседніх вёсак дабіралі сабе жвір тоўстазярністы на пустакі і падмуркі і тонказярністы на чарапіцу. Аднак плылі гады, плыў і жвір. Гара замянілася ў яму. Але дзякуючы чыжоўскім пажарнікам, якія ў вёсцы палічылі, што як будзе так надалей, дык за некалькі год жвіру не хопіць нават чыжоўцам. Людзі з іншых вёсак не шанавалі жвіру. Там абсыпалася зямля, але яны бралі кожны раз у свежым месцы. Пажарнікі пачалі праганяць гаспадароў суседніх вёсак з чыжоўскай жвіроўні. Але траплялся ўпартыя і кралі жвір не толькі днямі, але і начамі. Красць было добра, бо даезд да жвіроўні кругом быў добры. І што ж, паціху прыязджай, кладзі поўны балон з чубам і з'язджай з горкі ажно вецер у вушах засвішча. І тут на ўпартых не было аніякай рады. Мінула ўжо гадоў пяць, як у Чыжах сабраўся сход, на якім вырашана было выкапаць роў кругом жвіроўні. Як вырашылі так і зрабілі. А вёска даволі вялікая, каля 180 гаспадароў, дык яшчэ ўсе чынам хутка выкапалі роў даўжынёю ў 300 метраў, а глыбінёю і шырынёю ў адзін метр. Для тых, што кралі жвір, роў аднак не аказаўся перашкодаю, бо хітракі ўзялі і засыпалі ў адным месцы роў, зрабілі масток. Роў аказаўся зусім непатрэбны і бескарысны, бо з фурай і так ніхто туды не ўваліўся. А людзі толькі дарэмна напрацаваліся. Аказалася, што слушнай прапановай чыжоўскіх пажарнікаў толькі была пастанова, каб не даваць жвіру для чужых вёсак. Але гэта яшчэ не ўсё, бо жвір разбіраюць іншым цудам. Вось чыжоўскі дыспазітар сельгасгуртка Валодзя Астапчук з'яўляецца адначасова і камендантам пажарнай каманды ў Чыжах. Валодзя Астапчук яшчэ не быў тады камендантам, калі капалі роў кругом жвіроўні, а толькі браў удзел у чыне як звычайны пажарнік. Але Валодзя Астапчук, як стаў дыспазітарам, дык адразу забыў пра гісторыю чыжоўскай жвіроўні. Увесь час пасылае трактарыстаў вазіць жвір у чужыя вёскі на пабудову малачарняў або пабудову ў Гайнаўку. Ён проста гандлюе жвірам. Затым у сельгасгуртку ёсць бетанярня, у якой вырабляюць на продаж кравэнжнікі і трэлінгі. Цяпер ужо не так проста знайсці яго на жвіроўні. Варта нарэшце цвёрда сказаць Валодзі Астапчуку, каб перастаў ён гандляваць грамадскім жвірам. А калі хоча жвірам гандляваць, хай перакінецца на сваю прыватную жвіроўню, якая знаходзіцца толькі ў 200 метрах ад грамадскай жвіроўні.

**Я. М. Гайнаўскі павет**

---



## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Kalosze szczęścia" (polski), 22—23. „Kierunek Berlin" (polski), 24—25. „Starsza pani bez godności" (franc.), 26—27.

**Дубіны**

„Jak się pozbyć Helenki" (czeski), „Miałem 19 lat" (NRD), 26—27.

**Нараўка**

„Panowie z kompleksami" (włoski), „Paryż-Warszawa bez wizy" (polski), 23—27.

**Нарва**

„Niebo bez krat" (bułg.), „Miłosne kłopoty" (radz.), 23—27.

**Чыжы**

„Ubranie prawie nowe" (polski), „Wehikuł czasu" (USA), 23—27.

**Дубічы Царкоўныя**

„Hasło Korn" (polski), „Niepokoje wychowanka Torlesa" (NRF), 23—27.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Jutro Meksyk" (polski), „Krew na śniegu" (jugosł.), 23—27.

**Орля**

„Żenia, Żenieczka, katiusza" (radz.), „Za naszą i waszą wolność" (polski), 23—27.

**Райск**

„Między linami ringu" (USA), „Żywot Mateusza" (polski), 23-27.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Gdzie jest trzeci król" (polski), „Kochać jak Romeo"(jugosł.), 22—24.

**Міхалова**

„Romans z nieeznajomym" (USA), 22—23. „Cirpkie wino" (radz.), 24—25. „Wilcze echa" (polski), 26—27.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Lęk" (czeski), 22—23. „Dr Crippen" (angl.), 24—25. „Napad stulecia" (angl.), 26—27.

**Шудзялава**

„Zamach" (polski), „Zakazane piosenki" (polski), 23—27.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Arcylokaj" (franc.), 23—27.

**Новы Двор**

„Gdzie jest generał" (polski), „Czerwone berety" (polski), 26—27.

**Ліпск**

„Głosuję na miłość" (jugosł.), „Pod karnawałową maską" (kubański), 26—27.

## Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 7028

## САМАКРЫТЫКА ПАДВЯЛА

Прафсаюзны справаздачны сход на нашым заводзе прайшоў адносна спакойна. Ні адна крытычная страла не закранула старшыню прафкома Андрэя Карпавіча Глушкова.

Два ці тры прамоўцы лёгенька ўказалі на недастатковую крытыку і самакрытыку ў справаздачным дакладзе, папракнулі старшыню прафкома, што ён не заўсёды глыбока разбіраўся ў вытворчай дзейнасці прадпрыемства.

Андрэй Карпавіч ківаў галавою ў знак поўнай згоды з крытыкаю і нешта старанна запісваў у блакнот.

Калі спіс прамоўцаў быў вычарпаны, слова для заключэння далі Андрэю Карпавічу. Ён упэўненым крокам выйшаў на трыбуну і сказаў, што ўсе выступлені былі змястоўныя і правільныя і што новы прафсаюзны камітэт і яго старшыня (Андрэй Карпавіч, зразумела, меў на ўвазе самога сябе) зробіць усё магчымае, каб выкараніць выяўленыя недахопы.

На гэтым бы Андрэю Карпавічу і закончыць, дык жа не — нейкі чорт падштурхнуў яго сказаць:

— Я ўжо не адзін тэрмін узначальваю камітэт. Звыкся, мабыць, з недахопамі, не ўсё заўважаю. Ці не пара ўжо выбраць на гэтую адказную пасаду чалавека маладзейшага, больш энергічнага.

Андрэй Карпавіч паглядзеў у залу, чакаючы выкрыкаў «другога нам не трэба!», але зала маўчала. І раптам...

— Правільна сказаў таварыш Глушкоў, — крыкнуў нехта з залы. — Трэба выбраць другога!

На твары Андрэя Карпавіча выступіў халодны пот. У вачах пацямнела: ён нікога не бачыў, толькі чуў галасы людзей.

— Калі чалавек просіць, трэба яго просьбу задаволіць...

Так і не выбралі Андрэя Карпавіча старшынёй прафкома: аказваецца, і самакрытыкай трэба займацца з аглядкаю.

А пасля сходу да Андрэя Карпавіча падышла прыбіральшчыца цётка Зося і вінавата зазірнула яму ў вочы.

— Прабачце мне, Андрэй Карпавіч, за тое, што я дрэнна думала пра вас, — сказала яна. — А вы аказаліся не такі, як некаторыя іншыя: працуюць абы як, ад кіруючага крэсла сілай адарваць нельга. А вы па добрай волі...

Так і не зразумеў Андрэй Карпавіч — сур'ёзна яна гаварыла ці не.

**Іван Муравейка**



— Развод!

# НІЎКА



— Паспрабуйце гэтак, аэрадынамічны хутчэйшы!

## Галаваломка



Заданне складаецца з двух частак. Адкажыце: 1) З колькіх трохкутнікаў складаецца дадзеная фігура? 2) Колькі ў ёй квадратаў?

**Адказ на заданне з папярэдняга нумара: 14.**

### АДНО ЗБАВЕННЕ

**Каторы год, каторы дзень**
**У доме новым**
**Жыве паклёпнік між людзей —**
**Ціт Прышчыповы.**

**Людзям спакою не дае**
**Зімой і летам,**
**На ўсіх «сігналы падае»**
**Ва ўсе газеты.**

**Трымае ўсіх каторы год**
**Ён у палоне.**
**І ўсе суседзі ад яго**
**У абароне.**

**Ад паклёпнікаў у жыцці**
**Адно збавенне —**
**Ад абароны перайсці**
**У наступленне.**

**Міхась Скрыпка**

### ЛІХА З ІМ

Жонка:

— Ало, гэта бюро пошукаў? У мяне прапаў муж. Вы не можаце дапамагчы?

Начальнік бюро:

— Канечне, мадам. Апішыце яго, калі ласка..

Жонка:

— Ён невысокага росту, тоўсты, лысы, увівaецца каля бландзінак, амаль ніколі не бывае цвярозы, у яго сіпаты голас і... Ліха з ім, знiміце заказ!

### СТАМІЎСЯ

— Ну, як адпачывалася ў доме адпачынку?

— Дзякую, добра.

— Заўтра на працу?

— Ды не, узяў дадатковы водпуск. Адпачыць трэба.

— Я на кухні! Ем... кавалачак торту!

### КІМ

У амерыканскага навабранца пытаюць:

— Кім вы хацелі б служыць у нашай арміі?

— Дэзерцірам, сэр, — адказвае хлопец.

### І ТАК БЫВАЕ

Аднойчы рэпетыруючы сімфонію, дырыжор спыніў аркестр.

— Што ж вы, галубок, ад нас адсталі, — звярнуўся ён да аднаго з музыкантаў.

— Нічога, маэстра, працягвайце, я вас дагано.

### ДОБРА ВЕДАЕ

— Дзе нельга ехаць на павышанай хуткасці? — пытаецца аўтаінспектар у шафёра.

— Там, дзе стаіць аўтаінспектар...

### РАЗВАЖЛІВЫ ПАХОМ

У нашай вёсцы пра Пахома гаварылі, што ён на пуза плячысты. Любіў ён пасядзець за сталом, ды не за пустым.

Хоць марозіла ўжо добра, але снегу яшчэ не было. За садамі адразу пачыналася возера. Там малады і роўны лёд свяціўся, як люстранoe шкло.

— Дзядзька Пахом! — ускочыў у хату суседскі хлапчук Моцька. — Ваша рагуля расчахнулася на лёдзе. Ляжыць і раве.

— Хутчэй, Пахом! — закрычала жонка, ды сама з хаты бягом.

— Калі яна ўжо расчахнулася, то няхай сабе паляжыць, — разважліва сказаў Пахом. — Трэба дзесяцiць, а то пакуль збегаеш на тое возера, то і бульба астыне...



На нарадзе.

### СМАЧНЫ БОРШЧ

— Дзякуем за гасціннасць, гаспадынька. Ваш боршч такі смачны, што і за вушы ад місы не адцягнуць.

— На добрае здароўе. Шкада толькі, што муж мой не чуе вашай пахвалы.

— Чаму?

— Ат, ён сёння злаваўся і лаяў мяне, што я яму ўчарашні боршч падаю.

### ПРЫЧЫНА СУМУ

— Штосьці ты нейкі сумны ходзіш. Захварэў?

— Не.

— Цешча прыехала?

— Не.

— У камандзіроўку не пусцілі.

— Не.

— Што ж тады здарылася?

— Дырэктара з работы знялі.

— Такой бяды — новы будзе.

— Ужо ёсць. Але гэты ў шахматы не гуляе.

### З АНГЛІЙСКАГА

Сын канчае каледж, і бацька ранаўў сфатаграфавацца з ім на памяць.

— Станьце бліжэй да бацькі, — сказаў фатограф маладому чалавеку, — і пакладзіце руку яму на плячо.

— Відаць, будзе правільней, — запярэчыў бацька, — калі ён стане побач і апусціць руку ў маю кішэнь.

### КАМУ ШТО

Гультай пытаецца ў гультая:

— Скажы, што лепш: ці ляжаць, ці есці?

— Лепш за ўсё лежачы есці.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе **Тосі К. і Елі Ч. з Бельска Падляшскага**, а таксама **Олі з Гайнаўкі** змяшчаем песню з рэпертуару савецкага песняра і акцёра Марка Бернеса п.з.

## ПРАСКОВЬЯ

**Муз. М. Блантер**

**Слова М. Исаковский**

**Враги сожгли родную хату,**
**Сгубили всю его семью.**
**Куда теперь идти солдату?**
**Кому нести печаль свою?**

**Пошел солдат в глубоком горе**
**На перекресток двух дорог.**
**Нашел солдат в широком поле**
**Травой заросший бугорок.**

**Стоит солдат и словно колья**
**Застряли в горле у него.**
**Сказал солдат: «Встречай, Прасковья,**
**Героя мужа своего!**

**Готовь для гостя угощенье,**
**Накрой в избе широкий стол,**
**Свой день, свой праздник возвращенья**
**К тебе я праздновать пришел».**

**Никто солдату не ответил,**
**Никто его не повстречал.**
**И только тёплый летний ветер**
**Траву могильную качал.**

**Вздохнул солдат, ремень поправил,**
**Раскрыл мешок походный свой,**
**Бутылку горькую поставил**
**На серый камень гробовой.**

**«Не осуждай меня, Прасковья,**
**Что я пришел к тебе такой.**
**Хотел я выпить за здоровье,**
**А должен пить за упокой.**

**Сойдутся вновь друзья, подружки,**
**Но не сойтись во веки нам»...**
**И пил солдат из медной кружки**
**Вино с печалью пополам.**

**Он пил, солдат, слуга народа**
**И с болью в сердце говорил:**
**«Я шел к тебе четыре года,**
**Я три державы покорил».**

**Хмелел солдат, слеза котилась,**
**Слеза несбывшихся надежд.**
**И на груди его светилась**
**Медаль за город Будапешт.**



# Кур'ёзы

### Павага агентам ЦРУ

Высокапастаўлены чыноўнік урада ўсходнеафрыканскай дзяржавы Малаві заявіў у сваёй прамове, што затрыманыя ў краіне «замежныя агенты» будуць неадкладна з'ядацца кракадзіламі. Першае афіцыйнае папярэджанне аб гэтым атрымала штаб-кватэра буйнейшай шпіёнскай арганізацыі ў свеце — ЦРУ — разведвальнага ўпраўлення ЗША.



### Незвычайны выпадак

Адбыўся ён нядаўна ў Мінску. Сёстры-блізняты Галіна і Ірына Фалевічы ў адзін і той жа дзень сталі маці. У адной і ў другой нарадзілася па сыну з розніцай у часе ў тры з палавінаю гадзіны.

Галіна працуе прадаўцом у прадуктовым магазіне, Ірына — кантралёрам у абутковай майстэрні. Нягледзячы на тое, што сёстры непадобныя адна на адну па характары, у іх жыцці, гэтак жа як і ў знешнім выглядзе, вельмі многа падобнага. Напрыклад, хварэюць яны амаль заўсёды ў адзін і той жа час. І замуж яны выйшлі адначасова.

Пасля таго, як сёстры выпішуцца з радзільнага дома яны наведаюць разам са сваімі сынамі генетычную лабараторыю пры 2-й дзіцячай клініцы, дзе стаяць на ўлiку ўсе блізняты горада Мінска. Урачы клінікі зафіксуюць яшчэ адзін выпадак у калекцыі медыцынскіх кур'ёзаў.



**У міліцыі здарыўся пажар: на затрыманым злодзеі шапка загарэлася.**